



# “Айчынка выделки не стоит”

Некалькі год таму першы раз пачуў гэта перайначанае расейскае выслоўе, якое было ўжыта для характарыстыкі адносін да беларускіх рэалій людзей, што не шануюць сваю Айчыну Беларусь, грэбліва ставяцца да нашай гісторыі, культуры, мовы. Гэтае выслоўе раз-пораз усплывае ў памяці і цяпер, калі слухаеш перадачы радыёстанцый, якія размясціліся ў Менску. Сказаць, што слухаю іх рэгулярна, не магу, бо не маю даверу да іх з таго часу, як улады закрылі незалежнае “Радыё 101,2”. Не давялося тады ўбачыць сапраўднай салідарнасці з апальнымі журналістамі з боку супрацоўнікаў радыё “Би Эй” ці “Радио-рокс”.

Паслухаеш гадзіну-другую перадачы FM станцый і хочацца спытацца, якую зямлю лічаць айчынай тыя хлопцы і дзяўчаты, галасы якіх гучаць у эфіры? Мяркуйце самі.

Радыё “Би Эй” 25 чэрвеня расказвае пра “отечественного историка Астафьева”. Калі Астафьеў айчынны гісторык, то чые тады Ластоўскі, Шчакаціхін, Ермаловіч? Трохі пазней паведамляецца “О погоде на Всея Руси”. А чаму не ў Беларусі?

“Радио-рокс” штодзённа перакажвае нам “Народный календарь”. Толькі не той, які склаў наш беларускі народ, а суседні, расейскі. Вось і выходзіць па іх календары, што 24 чэрвеня трэба рабіць “взборонку паров”, а калі казаць па-беларуску, то баранаваць узараны папар. Я не спецыяліст у сельскай гаспадарцы, але наваат мне гэта падалося падазроным. Гляну ў аўтарытэтнае акадэмічнае шматтомавае выданне серыі “Беларуская народная творчасць” – “Земляробчы каляндар”. Дзень гэты называецца Янаў дзень або Яна Купальнага – дзень пасля купальскай ночы. Пра тое, як святкуюць Купалле ў Беларусі, што робяць у гэты час, якія песні спяваюць напісаны не дзесяткі, сотні кніг. А тут – “взборонка паров”...

Беларусь – не расейская Кубань ці Сібір. Тут клімат іншы, іншы і “Народны каляндар”. Не ўлічыш гэта – абсурд атрымліваецца. Як кажуць, курам на смех. І так – штодня.

13 ліпеня Кузін з “Альфа-радио”, кажучы пра тое, што на вуліцах Менска шмат смецця, знаходзіць і прычыну такой заганнай з’явы: аказваецца “татаро-монгольское иго чувствуется”. Магчыма ў Кузіна і адчуваецца, а вось грамадзянам Беларусі трэба валодаць элементарнымі звесткамі з айчыннай гісторыі – беларускія землі ніколі не былі пад мангола-татарскай уладай. У адрозненне ад Масковіі, нашы продкі жылі ў сваёй краіне – Вялікім Княстве Літоўскім. Калі “там” было “иго”, у нас быў росквіт дзяржавы і культуры.

На тым жа “Альфа-радио”, бывае, гавораць так: “четверьг”, площадь Йикуба Коласа”. Па мойму мы маем справу з відавочным перабором расейскасці. Усё-такі, і ў расейскай мове існуе літара “я”, а “р” у слове “четверг”, ну, не такое мяккае.

Успамінаючы пра “отечественных поэтов-песенников”, а на самай справе пра аўтараў расейскай папсы. Расказваюць пра расейскую армію і кажуць, што яна нясе службу “по защите рубежей нашего отечества”. А на самай справе на абароне межаў нашай айчыны, Беларусі, пакуль яшчэ стаіць беларуская армія, а расейская армія бамбуе Грозны і вядзе вайну ў Чачні. Няўжо вядучым перадач так карціць, каб беларускія хлопцы трапілі ў бойню на Каўказе?

З дня ў дзень расейскія рэаліі называюцца “отечественными”, сапраўды айчынныя, беларускія амаль поўнасцю адсутнічаюць. За выключэннем, бадай што, надвор’я.

А вось і плён такіх перадач: менскае прадстаўніцтва расейскай газеты “Северный торговый путь” у сваіх рэкламках паведамляе пра “Выставки в городах России: ... Петрозаводск, Тверь, Минск.” Каментараў, як кажуць . не трэба.

Я, канешне, разумею, што “широка страна моя родная ... от Москвы до самых до окраин”, “мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз”. Але скора ўжо 10 год, як жывём у незалежнай дзяржаве Беларусь. Пара выкараскацца з саўковасці і не рэпрадукаваць яе наноў.

Шкада, што супрацоўнікі гэтых радыёстанцый, жывучы ў Беларусі, ніяк не могуць вызначыцца з айчынай. Як бы цела знаходзіцца тут у Менску, а вось душа... Душа – ў сібірскіх снягах.

*Палсцюк Валеры.*

# ЗВАРОТ

## у абарону беларускай мовы да ўладаў г. Бабруйска

Мы, жыхары Бабруйска, абураныя станам занядбання і фіктыўнай дзяржаўнасці беларускай мовы ў нашым горадзе. Патрабуючы спынення павальнай русіфікацыі, звяртаемся да кіраўніцтва г.Бабруйска і прапануем прыняць шэраг захадаў і мерапрыемстваў па забяспячэнні рэальнага статусу дзяржаўнасці беларускай мовы, у сітуацыі дзяржаўнага дзвюхмоўя, ва ўсіх сферах жыццядзейнасці горада. Пры гэтым просім уліччыць нашыя наступныя меркаванні:

1. Зліквідаваць становішча псіхалагічнага і маральнага дыскамфорту для носьбітаў мовы і ахвочых размаўляць па-беларуску. У горадзе павінна быць створана атмасфера нязмушанага авалодання беларускай мовай жыхарамі Бабруйска.

2. Уся візуальная інфармацыя – шыльды, рэкламныя плакаты, афішы, назвы аб'ектаў – павінны падавацца найперш па-беларуску.

3. Абнавіць навучанне беларускай мове ва ўсіх дзіцячых дашкольных установах.

4. Павялічыць сферы выкарыстання беларускай мовы ў афармленні і пазакласнай рабоце ў дзіцячых садках, школах, гімназіях, вучэльнях, тэхнікумах, каледжах і ВНУ горада.

5. Абавязаць дырэктароў усіх прадпрыемстваў пры афармленні будынкаў і памяшканняў выкарыстоўваць найперш беларускую мову.

6. Спыніць практыку напісання аншлагаў з назвамі вуліц па-руску. Пры іменаванні новых вуліц выкарыстаць імёны наступных асобаў: В.Дуніна-Марцінкевіча, Еўфрасінні Полацкайц, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Алеся Адамовіча, Валерыя Маракова.

7. Забараніць: лінгвістычную бязглуздзіцу ў выглядзе рускамоўнага напісання беларускай лексікі (пр.”Журавинка”, “Красавик” “Пролеска” і інш. Забараніць дубляванае ўжыванне рускамоўных назваў (пр.”Аптека” – “Аптека”, “Универсам” – “Универсам”, “Дом одежды” – “Дом одежды” і інш.).

8. У гарадскім транспарце пры абвяшчэнні прыпынкаў выкарыстоўваць беларускую мову, ужываць аўтаабвяшчальнікі, калі кіроўца не валодае мовай.

9. Увесці пасаду інспектара па культуры мовы ў пэўных аддзелах райвыканкамаў.

Прынята на агульным сходзе ТБМ і ТБШ 20 кастрычніка 1999 г.

*Сябры Таварыства беларускай школы,*
*Таварыства беларускай мовы імя Фр. Скарыны г. Бабруйска.*

# Адміранне беларускага этнасу адкладваецца

## (да вынікаў апошняга перапісу насельніцтва Беларусі)



Усе сябры ТБМ, і не толькі, добра памятаюць гэты перапіс, умовы, пры якіх ён праводзіўся, і сацыяльны заказ, які ён павінен быў выканаць. Усе выдатна разумелі, што перапіс, арганізаваны антыбеларускімі ўладамі, мае адну мэту – паказаць, што такога народа, як беларусы, ужо няма, што мы тыя ж рускія. Таму і апытальныя аркушы былі выкананы спачатку толькі на расейскай мове, і пытанні былі сфармуляваны так, каб потым можна было зрабіць патрэбныя высновы, і ў большасці гарадоў былі забаронены ўсялякія акцыі, звязаныя з перапісам.

Толькі ўмяшанне нацыянальных сілаў і ў першую чаргу ТБМ прымусіла ўлады пайсці на некаторыя саступкі. Была надрукавана невялікая колькасць апытальных аркушаў па-беларуску і, самае галоўнае, быў унесены пункт пра родную мову. ТБМ кантралявала ход перапісу. У сядзібе не змаўкаў тэлефон: абураныя людзі паведамлялі пра шматлікія парушэнні, як з іх робяць “рюских”. “Наша слова” не раз звярталася да гэтай тэмы. І вось апублікаваны асноўныя вынікі перапісу.

Насельніцтва Беларусі за 10 апошніх гадоў зменшылася на 107 тысяч чалавек і склала 10 млн 45 тысяч. Але колькасць беларусаў за той жа час павялічылася на 254 тысячы і ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі перасягнула 8 мільёнаў і склала 8 млн.159 тыс. чалавек. Колькасны склад усіх астатніх асноўных нацыянальных груп паменшыўся: рускіх з 1342 тыс. да 1142 тыс., палякаў з 418 тыс. да 396 тыс., украінцаў з 291 тыс. да 237 тыс., яўрэяў з 112 тыс. да 28 тыс.

Не маючы пад рукой усіх звестак, можна ўсё ж патлумачыць гэтыя змены дзвюма прычынамі: міграцыяй і ўмовамі перапісу. Апошняе дзесяцігоддзе ахоплівае эпоху распаду Савецкага Саюза. У гэты час павінна было вярнуцца на Беларусь толькі вайскоўцаў-беларусаў з сем’ямі каля 150 тысяч, а таксама шмат цывільных беларусаў з нацыянальных асклёпкаў імперыі, з Поўначы, з Далёкага Ўсходу.

У гэты ж час значная колькасць расейскіх войскаў была выведзена з тэрыторыі Беларусі. Змяншэнне колькасці яўрэяў таксама тлумачыцца міграцыяй. А вось міграцыі ўкраінцаў ці палякаў практычна не было. Змяншэнне іх колькасці можна патлумачыць хіба ўмовамі перапісу, калі звесткі пісаліся са словаў і людзі называлі сваю нацыянальнасць такой, да якой самі сябе адносяць.

Пытанне распаўсюджання моў сярод насельніцтва, дзякуючы ўмяшальніцтву ТБМ вывучалася комплексна. Насельніцтву прапаноўвалася: назваць родную мову; мову, на якой размаўляе дома, і іншую мову, якой свабодна валодае. І вось тут першая неспадзёўка для ўладаў. Не гледзячы на жорсткі прэсінг, беларускую мову назвалі сваёй роднай 82 працэнты беларусаў і 18 працэнтаў небеларусаў. Разам гэта складае 7 мільёнаў 30 тысяч чалавек. Больш сямі мільёнаў на Беларусі назвалі роднай мовай беларускую. Гэта значна больш чым 10 гадоў назад. Больш сямі мільёнаў усведамляюць сябе беларусамі. З іх 3,7 мільёна размаўляюць дома па-беларуску. Гэта 41,4 працэнта ад усіх беларусаў. Шмат якія газеты дадалі да гэтай лічбы словы “ўсяго”, “толькі”. Мы ж зададзім іншае пытанне. А на якой мове размаўляюць астатнія 59 працэнтаў? На “рюской”? Вось менавіта. Тыя, хто сказаў, што дома размаўляе па-руску, а яны шчыра ў гэта вераць, на самай справе ўжываюць такую бязбожную трасянку з такім акцэнтам, што рускія лінгвісты, мабыць, у трунах варочаюцца ад іх “рюсского языка”. 41 працэнт, які размаўляе па-беларуску, размаўляе таксама не на чыстай літаратурнай мове, але гэты 41 працэнт дадае да сваёй мовы дыялектызмы той жа беларускай мовы, а не робіць шаткаванку з русізмаў, беларусізмаў і іншых ізмаў. Дома па-беларуску размаўляюць 4,3 працэнта рускіх, 10,2 працэнта ўкраінцаў, 3,8 працэнта яўрэяў і **57,6!** працэнта палякаў. Вось яно -- слова беларускай шляхты. Як яе не запісвай, дзе яе ні хрысці, яна беларуская. І, наогул, якім словам назваць тую з’яву, што ад афіцыйнай нацыянальнай меншасці па-беларуску гаворыць каля 58 працэнтаў, а ад тытульнай большасці “усяго” 41 працэнт. Парадокс? Не. Ганьба і сорам!

Што ж такое сем мільёнаў чалавек, якія ўсведамляюць сябе беларусамі. Гэта больш, чым уся Прыбалтыка, чым Фінляндыя, Славакія і інш. Гэта сярэдні еўрапейскі этнас. Што такое 3,7 млн. Гэта больш, чым Летува і шмат іншых краін. І вось пасля гэтых лічбаў самі па сабе лезуць пытанні. Чаму ні для гэтых 7 млн., ні для 3,7 млн. няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы на іх роднай або побытавай мове. Чаму іхнія дзеці не могуць пайсці ў беларускі клас. Чаму ні адзін начальнік не размаўляе з імі па-беларуску. Чаму іх хрысцяць, шлюбуюць і адпяваюць па-замежнаму. Чаму іх па-замежнаму судзяць. Чаму ў дзіцячым садку выхавацелька, у войску сяржант, на заводзе дырэктар далдоняць ім па-расейску. Таму, што і выхавацелька, і сяржант, і дырэктар, і суддзя, і бацюшка, нарэшце, -- людзі дзяржаўныя, а ў дзяржавы курс на інтэграцыю з Расеяй, а па дарозе на знішчэнне ўсяго, што ёй замінае, у тым ліку і беларускай мовы.

Але зараз уладзе будуць замінаць ужо вынікі ёй жа арганізаванага перапісу. Бо сёння ТБМ ужо пачынае гаварыць не ад імя 5 тысяч сваіх сяброў. Сёння мы ўжо гаворым ад імя і 3,7 мільёна, якія размаўляюць па-беларуску і ад імя 7 мільёнаў, якія памятаюць мову, а таму лёгка могуць загаварыць на ёй. І хай адкажуць чыноўнікі і ўладары, чаму ў незалежнай да рэзі ўваччу Беларусі ўся сістэма адукацыі, увесь дзяржаўны апарат выражае інтарэсы 3 мільёнаў чужамоўных. Мабыць таму, што ўлада ў нас не нацыянальная, а таксама і чужамоўная, і проста чужая, варожая беларускаму этнасу. Але ж гэтую ўладу выбіраем мы, за яе галасуем мы і думаць павінны таксама мы. Бо так і будзе вечна, што з сошкай беларус, а з лыжкай “рюскі”.

*Станіслаў Суднік.*

